16+



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

2 • 2020
люты

Літаратура для садаводаў і агароднікаў

Кніга 1
Вярш-кі

Кніга 2
Ка-рэнь-чыкі

Алег ГУЦОЛ.

# ІНФА АКЦЭНТ

*Па матэрыялах друку.*



*Апоўначы
па цэнтральнаеўрапейскім часе
з 31 студзеня на 1 лютага,
праз 188 тыдняў
пасля рэферэндуму па Brexit,
Брытанія фармальна выйшла
з Еўрапейскага саюза.*




Алег КАРПОВІЧ х 2.



*Крытычныя заявы ад Эмануэля Макрона,
прэзідэнта Францыі,
памянялі публічныя адносіны да НАТА...
з боку Дональда Трампа, прэзідэнта ЗША.*




Мікола ГІРГЕЛЬ х 2.

*Фэйкавыя навіны – гэта інфармацыйная містыфікацыя
ці наўмыснае распаўсюджванне звестак
у сацыяльных медыа і традыцыйных СМІ
для атрымання фінансавай ці палітычнай выгады.
Між тым, у Кітаі пачалі затрымліваць
за распаўсюджанне фэйкаў пра каронавірус.*











*Брытанскі прынц Гары і яго жонка,
амерыканская экс-актрыса Меган Маркл,
заявілі, што вырашылі зарабляць самастойна
і адмовіцца ад фінансавых прывілей,
што належаць ім па статусе.
Але герцагі Сасекскія
не адмаўляюцца выконваць
абавязкі членаў каралеўскай сям'і.*

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

# «MADE IN ...», альбо ШАНУЙ СВАЁ!

*Іранеска*

Раніцай да сябе выклікаў рэдактар.

– Слухай, Сямёнаў, тут да нас у раён італьянцы прыехалі. Хочуць з прыватнай вытворчасцю азнаёміцца. Трэба асвятліць падзею. Сам разумееш...

Наступную фразу рэдактар прамовіў на англійскай мове:

– Well, come on, Sash, come on!

– Yes, Sir, – таксама на заходні манер адказаў я і паляцеў выконваць заданне.

У складзе дэлегацыі прысутнічала дзесяць іншаземцаў: пяць мужчын і пяць жанчын. Кожны на радзіме меў уласны бізнес.

Першай па маршруце была прыватная фабрыка па вырабе кашуль з ільну. Дырэктар прадпрыемства заўзята расхвальваў вытворчасць. Не забыўся адзначыць, што тавар з ільну карыстаецца вялікім попытам за мяжой.

Адзін з гасцей заўважыў:

– А кашуля ў вас «made in France»! Не з ільну.

– Ну, разумееце... — пачырванеў ён і хацеў апраўдацца, але не знайшоў слоў.

Між тым, замежны госць нешта сказаў перакладчыку. Той агучыў:

– Сіньёр Жанлука кажа, што часта чуў пра якасць ільняной вопраткі, таму жадае набыць вашыя кашулі. На радзіме ён будзе выглядаць у іх дужа стыльна.

На другім прадпрыемстве займаліся вырабам драўляных дзвярэй. Дырэктар правёў экскурсію, расказаў пра вялізныя дрэвы, якія растуць у мясцовых лясах і з якіх атрымліваюцца адметныя вырабы. І што іх вытворчасць карыстаецца вялікай папулярнасцю за межамі краіны.

Адзін з бізнесменаў звярнуў увагу:

– А дзверы ў вашым кабінеце «made in Finland»!

– Аднак... – збянтэжыўся дырэктар.

Італьянскі госць зноў нешта сказаў перакладчыку, а ўжо той – усім прысутным:

– Сіньёр Сандро жадае заказаць вашыя дзверы для свайго дома. Ён лічыць, што яны нічым не горшыя за фінскія. Таксама сіньёр кажа, што дзверы будуць нагадваць яму водар вашых лясоў.

На трэцім прадпрыемстве займаліся вырабам жаночых галаўных убораў. Дырэктар з вялікім энтузіязмам распавядала пра сваю прадукцыю.

– А жаночыя галаўныя ўборы якой краіны падабаюцца вам? — праз перакладчыка пацікавіліся госці.

– Зробленыя ў Італіі, — ці то яна хацела падыграць гасцям, ці то сапраўды лічыла так.

– Чаму? — здзівіліся іншаземцы. — Хіба вам не падабаецца тое, што вы робіце?

– Падабаецца. Але ж яно не замежнае...

– Шануйце сваё! — параілі госці.

...Экскурсія завяршылася. Я вярнуўся ў рэдакцыю і адразу ж напісаў рэпартаж. А назву пакінуў тую ж, што і ў пачатку гэтага твора. Паказаў рэдактару. Той пачытаў уважліва, потым сказаў:

– Слухай, Сямёнаў, а можа, гэтыя італьянцы маюць рацыю? Сам падумай. Той жа Аршанскі льнокамбінат экспартуе тканіны ў многія краіны свету. На валюшналямцавай фабрыцы ў Смілавічах робяць валёнкі, якія з задавальненнем носяць ва ўсім свеце. Кожны трэці кар'ерны самазвал у свеце выпускаецца на Беларускім аўтамабільным заводзе. Брэнд «Белшына» прысутнічае на рынках амаль 70 краін. Амаль уся прадукцыя брэнда Gefest экспартуецца за мяжу...

Ён на імгненне замоўк, а потым нібы апамятаўся:

– Але што гэта я? У нас жа іншыя клопаты. Так што, давай, Саша, давай, не марнуй час! — ужо на нашай, не замежнай мове загадаў рэдактар.

– Анягож! Усё выканаю, – адказаў на наш капыл і я.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*

**Яўген ХВАЛЕЙ**

## Белы Снег і чорны Крумкач

*Байка*

Снег ідзе,
Бялюткі, спорны,
А пад ім —
Крумкач чорны:
Свет здаецца двухкалёрным.

Заспрачаліся Кантрасты
Не на жарты:
– Я ўсё бачу ў майскім цвеце,
Сам, як дзіва, я на свеце.

Глянь – якая мілата!
Мне ж настрой псуе твая
Чарната...

– А ты вочы рэжаш мне,
Асляпляеш ты мяне
Белізной сваёй, як сонца.
Чорны колер бачу ў сне.

– Я сыду, а ты бясконца
Будзеш гэтай чарнатою —
Летам, восенню, зімою...

* * *

Адышло ў нябыт даўно
Чорна-белае кіно,
Але спрэчка: хто — каго?
Мне нагадвае яго.



Уладальнік мінскай кватэры Уладзімір Сахарчук перад тым, як адчыніць дзверы, зноў перапытаў:

— Дык вы канчаткова вырашылі не брацца за работу? Не передумаеце? Паўтары тысячы долараў — гэта не так і мала.

— Я патлумачыў раней, з чым не згодны. Чаму нельга заплаціць наяўнымі беларускімі рублямі або пералічыць амерыканскія грошы на картку? — Кастусь Драбеня, майстар па рамонце, стаміўся паўтараць і збіраўся выйсці. Да таго ж гаспадар меў непрыемную звычку ўважліва ўзірацца ў твар суразмоўцы пасля кожнай рэплікі, але калі той спрабаваў зрабіць гэтак жа, вочы Сахарчука пачыналі спалохана бегаць.




*Фельетон*

— Разумееце, не часта бываю ў Беларусі, у летні водпуск прыехаў толькі на тыдзень, таму не маю рахунку ў нацыянальнай валюце. Няма часу стаяць у чарзе ў банку, каб абмяняць валюту ці перавесці яе, — пад позіркам Уладзіміра рабочы адчуваў сабе нейкім школьнікам, які не вывучыў урокі, хаця абодвум было пад сорак гадоў. Яго быццам правяралі.

— У мяне ёсць пэўныя правілы, таму выбачайце. Спадзяюся, што хутка знойдзеце новага майстра. Да пабачэння! — Драбеня ўпэўненым крокам выйшаў з кватэры магчымага заказчыка, мяркуючы хутка забыць пра гэтую сустрэчу.

Але праз тры тыдні ўвечары Кастусю патэлефанавалі.

— Прывітанне, як справы? — стары сябар, таксама майстар, Сяргей Кротаў спрабаваў размаўляць бадзёра, але таварыш заўважыў напружанасць у голасе.

— Як звычайна, шмат працы. А твае? Нешта здарылася?

— Не выклікалі яшчэ ў міліцыю? — вінавата спытаў суразмоўца.

— А павінны? — здзівіўся прыяцель.

— Так, мяне сёння затрымалі ў банку, калі вырашыў абмяняць купюры, якія даў Сахарчук. Потым адпусцілі, але ўсё роўна непрыемна. З яго паўтары тысяч чатыры банкноты па сто долараў аказаліся несапраўднымі.

— Казаў жа, што ён падазроны чалавек! Вочы бегаюць, рахунак у банку не адкрывае... Трэба было не паказваць табе яго аб'яву, — паспачуваў Кастусь. — А мяне навошта выклікаць?

— Расказаць гісторыю пра гаспадара кватэры, патлумачыць, чаму не захацеў працаваць з ім... Міліцыянеры напалохалі пагрозамі пра крымінальную справу за збыт фальшывых грошай. Але ж я нічога не падрабляў і нават не ведаў, што нясу ў банк! — па голасе здавалася, Кротаў гатовы заплакаць. — Але ж ёсць яшчэ горшая навіна.

— Якая?

— Нельга прымаць аплату ў замежнай валюце. Таму, па-першае, мяне аштрафуюць, а па-другое, канфіскуюць астатнія грошы. І навошта працаваў два тыдні? Адпачываць выйшла б танней...

Наступнай раніцай Кастусю сапраўды патэлефанавалі з раённага ўпраўлення ўнутраных спраў. Праз гадзіну ён ужо быў на месцы. Пачалася доўгая размова...

— Будзем разбірацца, высвятляць, адкуль у заказчыка несапраўдныя банкноты і ці ведаў ён пра падробку, — напрыканцы гутаркі сказаў міліцыянер.

— Зразумела, — уздыхнуў мужчына. — А такіх выпадкаў увогуле шмат?

— Хапае... Напрыклад, у Дзяржынску прыезджы будаўнік атрымаў заработную плату наяўнымі доларамі, у тым ліку, некалькімі несапраўднымі, і вырашыў абмяняць іх у банку. У выніку — штраф і канфіскацыя валюты, якую прынёс з сабой.

Дарэчы, вы правільна адмовіліся працаваць на ўмовах заказчыка. Так і трэба: або няхай пералічвае заработную плату на рахунак у банку, або аддае ў беларускіх рублях. Іх хаця б радзей падрабляюць, у адрозненне ад амерыканскіх і расійскіх грошай ці еўра.

— А якія несапраўдныя купюры часцей выяўляюць?

— Стодоларавыя і пяцітысячныя расійскія. Іх часта знаходзяць у турыстаў, у грамадзян, якія ездзілі на працу за мяжу, у прадпрымальнікаў... Якасныя «фальшыўкі» трапляюць да нас з іншых краін, бо ў Беларусі няма падпольных друкарань для іх вырабу.

— А можа, лепш наогул пазбягаць наяўных грошай? — асяніла Кастуся.

— Але, добрае рашэнне. Калі з'явіліся пластыкавыя карткі, фальшывак сталі знаходзіць менш. Я нават лічбы па памяці ўзгадаю: з 2006 па 2018 гады колькасць такіх фактаў зменшылася з 2800 да 800.

— А што будзе з Кротавым?

— Праверым інфармацыю пра заказчыка і, калі яна пацвердзіцца, крымінальную справу ўзбуджаць не будзем. Мы карыстаемся тэрмінам «добрасумленны збытчык». Калі чалавек не ведаў, што ў яго несапраўдная банкнота, ён не нясе адказнасці.

Узгадаў, дарэчы, па тэме. Летась у Гродне маладым на вяселле падарылі амерыканскую валюту. Усцешаны жаніх пабег у абменнік... Там і даведаўся пра падробку.

Іншая справа, калі чалавек ведае, якая ў яго грашовая адзінка. Так, адзін разумнік павялічыў намінал амерыканскай купюры ў дзесяць разоў, прыклеіўшы да яе раздрукаваны на паперы... нуль. Вядома, такога «разумніка» прыцягнулі да крымінальнай адказнасці.

— Але гэта ж такое глупства! Няўжо той сапраўды верыў, што ніхто нічога не заўважыць? — скептычна ўсміхнуўся Драбеня.

— Безумоўна, верыў! І не ён адзін. А як некаторыя спрабуюць абмяняць сувенірныя грошы на сапраўдныя? Напрыклад, гомельская работніца трыкатажнай фабрыкі знайшла іх на вуліцы і вырашыла абмяняць на беларускія рублі. Яе не спыніў нават спецыяльны надпіс на муляжах. Дзяўчына дамянялася да крымінальнай справы за спробу ашуканства, — павучальна зазначыў міліцыянер.

— І гэта, відаць, не выключныя выпадкі? — паківаў галавою Кастусь.

— На жаль, не. Адзін мінчанін купіў аўтамабіль па аб'яве ў інтэрнэце. Але нават не паспеў афарміць патрэбныя дакументы, як былы ўладальнік выкупіў яго назад... цацачнымі доларамі. Свой учынак хлопец патлумачыў цяжкім матэрыяльным становішчам, — часу на прафілактычную размову міліцыянер не шкадаваў. — Другая гісторыя таксама адбылася ў сталіцы: знаёмы аднаго мужчыны купіў яго адзенне за сувенірныя амерыканскія банкноты. У Баранавічах чалавеку вярнулі пазыку падробленай купюрай. А ў Навагрудку пенсіянерка абмяняла ў падманшчыка сапраўдныя беларускія рублі на фальшывыя амерыканскія долары. Пайшла б у банк — такога не адбылося б...

— А ці здаралася так, што людзі шчыра верылі ў сапраўднасць цацачных паперак? — Кастусь, здаецца, пачаў забываць, навошта ён тут знаходзіцца.

— Так, дзеці і старыя часам сапраўды вераць. Напрыклад, у Светлагорску пажылы мужчына вырашыў абмяняць долары, якімі расійскія хлопцы падзякавалі яму за прытулак. І толькі ў банку зразумеў: з яго пажартавалі.

— Выбачайце, што затрымліваю, але ўсё ж не магу не спытаць. Як распазнаць падман?

— Даволі лёгка. Прыкметы падробкі вядомыя: адсутнасць вадзяных знакаў, рэльефнасці, схаванай выявы. Чалавека павінна насцярожыць, калі папера занадта мяккая, на пальцах застаецца фарба або малюнак пад уздзеяннем вады размываецца. Ахоўная палоска фольгі павінна прашываць грашовую адзінку шыўком, а не складацца з асобных прыклееных кавалачкаў... І толькі калі купюра якасная, патрабуюцца спецыяльныя інструменты. Ну што, маю надзею, мы больш не сустрэнемся? — усміхнуўся міліцыянер...

Кастусь Драбеня таксама спадзяваўся, што яны не пабачацца. Але калі праз месяц сустрэўся з Сяргеем Кротавым, ужо не быў так упэўнены. Сябар падзяліўся прыемнай навіной: працуе ў катэджы аднаго багатага бізнесмена. Аплата наяўнымі доларамі, часткамі, таму давяраць можна. Ён жа ўжо ведае, як распазнаць падробку.

Здаецца, гісторыя рызыкавала паўтарыцца...

**Алена КЕДА.**




### Не разлічыў

Увосень многа дроў прывёз —
Згарэла ўсё паленне.
У лес шыбую я ў мароз:
Дзе ж тое пацяпленне?



### Не мая

— Сыночак, бачыла цябе
З такою прыгажуняй...
— Не, мама, гэта не мая!
Падкінулі чужую!




### Паразіт

Не любіць працаваць Алесь,
Ад сну ажно апух увесь.
Пытаюся, з чаго жыве?
— Дык спонсары — бацькі мае!



### Важкая прычына

— Чаму спазніўся сёння ў школу? —
У сына бацька запытаў.
— Ў мяне пацэліў снежкай Толя,
Вось я яго і даганяў!..

**Уладзімір ФІЛАТАЎ,**
*г. Мінск.*

# Міні-маналогі

«І каму я дарогу перабегла?» — думала чорная кошка, залізваючы раны.

**«Не будзь авечкай!» — вучыў асёл казла.**



«Гэта разбой! Разбіце мне пяцьдзясят рублёў дзясяткамі!» — загадаў наведвальнік у краме.

**«Ды я з голаду гатова слана з'есці!» — верашчала Моська.**

«Я пастаянна трымаю сябе ў руках. Таму і стройная такая!» — хвалілася ручка.

**«Час замарыць чарвячка», — сказаў дачнік і пайшоў апрацоўваць яблыні ад шкоднікаў.**

«Мы гарантуем вам буру ў шклянцы!» — абяцалі вытворцы газіроўкі.

**«Як у ваду глядзела», — уздыхнула рыба, трапіўшы на кручок.**



«Раней мяне дакаралі за тое, што я збіраю плёткі. Перастала. Цяпер дакараюць за тое, што я іх разношу. Не дагадзіць людзям!» — скардзілася пляткарка.

**Падслухаў Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*




Пётр КОЗІЧ.




**Пятро ГРЫШКО**

## Аслінае рэзюмэ

Асёл паслухаў
Баранова выступленне —
І ад яго прыйшоў
У захапленне.
І выказаў асёл
Такое рэзюмэ:
— Ён — эрудыт!
Ён знае бэ і мэ!



**Уладзімір ЛЯВІЦКІ**

## Размова

— Куплю машыну,
Каб пабачыць свет.
— Ці той, ці гэты? —
Запытаў сусед.



**Валянціна СЦЕПАНЕНКА**

## Прынцыповая крытыка

Піша вершыкі Мартын —
Ні ў вароты, ані ў тын.
Яго лаюць, крытыкуюць —
І друкуюць, і друкуюць...






## Кветачкі і ягадкі

***Мінск.*** Адна фірма набывала за мяжой кветкі і дэкаратыўныя расліны і потым іх прадавала. Аднак у фінансавых дакументах паказвала не ўсе ўгандляваныя грошы. І таму за час са студзеня 2017 па сакавік 2019 года не даплаціла падаткаў на суму звыш 900 тысяч рублёў.

За кветачкамі прыйшла чарга ягадак. У адносінах да адказных асоб кампаніі ўзбудзілі крымінальную справу.

## Сюрпрыз на любіцеля

***Полацк.*** Летась двое пенсіянераў стаялі напрыканцы лістапада ў цэнтры горада каля магазіна побач з рынкам ды скардзіліся адзін аднаму.

— Набыў тут учора танны «Мясны сюрпрыз». Грошы на вецер! Паглядзеў дома ўважліва, а тэрмін прыгоднасці гэтай каўбасы яшчэ ў сакавіку скончыўся!

— А я так натрапіў на «Каўбасу любіцельскую «ад Бульбаша», таксама са скідкай! Сапраўды, на любіцеля аказалася: тавар сапсаваўся яшчэ ў жніўні.

Такіх падманутых пакупнікоў і скаргаў ад іх выявілася багата. Рэвізоры пільна праверылі дзейнасць магазінаў пэўнага ТАА — і толькі ў адным гандлёвым месцы знайшлі 17 назваў нясвежых тавараў на агульную суму больш чым 220 тысяч рублёў!

Вінаватыя адказалі. Цяпер, трэба спадзявацца, гандаль будзе без сюрпрызаў...

## Ваўкі з грыбамі

***Гродзенская вобласць.*** Баяцца ваўкоў — быць без грыбоў. А баяцца тэхнічнага прагрэсу — быць без будучыні. Асаблівай карысці супрацоўніцтва арганізацый рэгіёна з навуковымі ўстановамі, на жаль, не прынесла. Так, ААТ «Воранаўская сельгастэхніка» і «Шчучынскі рамонтны завод» заключылі дагаворы з РУП «НПЦ НАН Беларусі па механізацыі». Але выраблялі толькі вопытныя ўзоры, а серыйную вытворчасць не асвойвалі...

Ды нездарма кажуць: «Хочаш грыбок — лезь пад кусток». Давядзецца ўсё ж часцей выкарыстоўваць сучасныя тэхналогіі. Або баяцца і... быць без перспектыў.

## У балоце ціха...

***Брэсцкая вобласць.*** Заказчыкі і выканаўцы работ па абнаўленні сістэм асушэння балот у Іванаўскім, Бярозаўскім, Івацэвіцкім і Жабінкаўскім раёнах часам не хацелі змагацца з багнамі. Таму некаторыя паслугі, звязаныя з рэканструкцыяй меліярацыйных сістэм, фактычна не выконвалі, але ўключалі іх у акты выкананых работ і, вядома, атрымлівалі грошы.

У балоце ціха, ды жыць там ліха... У выніку падману з бюджэту зніклі амаль 5 тысяч рублёў, а недагледжаныя землі больш нельга выкарыстоўваць у сельскай гаспадарцы без паўторнай апрацоўкі. Вось такое ціхае ліха.

*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.*

## Пятак за ўсмешку



Выдала касірка здачу,
Усміхнуўшыся ў прыдачу.
Пакупнік лічыў, што так,
А на справе — за пятак.



**Ігар СЕЧАВІК**

## Варона




— Калі б не я,
Даю вам слова,
Ці знаў бы хто
Таго Крылова?!

**Пераклад з украінскай Міхася МІРАНОВІЧА.**

*«Усмешкі», Мн., 2018 г.*



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

ВЕРНІСАЖ



Малюе
Алег
ПАПОЎ





















Шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

*Нашага пастаяннага аўтара, шчырага сябра і калегу Анатоля ЗЭКАВА – з 65-годдзем! Насычанай творчай біяграфіі Анатоля Мікалаевіча можна толькі пазайздросціць: вядомы беларускі пісьменнік і журналіст мае за плячыма важкі багаж у выглядзе некалькіх дзясяткаў вершаваных і празаічных кніг, досведу працы ў вядучых рэспубліканскіх перыядычных выданнях. У рэдакцыйным штаце «Вожыка» Анатоль Зэкаў таксама «засвяціўся»: з 2002 па 2005 гады быў намеснікам і выконваючым абавязкі галоўнага рэдактара. Сёння пісьменнік заўважны і ў медыйнай прасторы: на канале «Беларусь 3» вядзе штотыднёвую літаратурную праграму «Дыя@блог. P. S.».*

*Анатоль Мікалаевіч – уладальнік рэдкага ў літаратуры таленту парадыста. А байкі паэта вызначаюцца актуальнасцю тэм, іх сучаснай трактоўкай і вобразнасцю. Гумар і сатыра – відавочна любімая і найбольш плённая дзялянка аўтара, аднак з не меншай цеплынёй пісьменнік працуе і на ніве дзіцячай літаратуры.*

*Ад усёй душы віншуем Анатоля Мікалаевіча з юбілейнай датай і жадаем, каб творчага запалу і натхнення хапіла на доўгія гады шчаслівага жыцця!*

## Анатоль ЗЭКАЎ

### Здаецца...

*Мы адны на ўсёй планеце.*
*Я, здаецца, цябе кахаю...*

* * *

*Здаецца, мы сваіх не чулі ног,*
*Бо ўсё было святочным,*
*незвычайным.*

* * *

*Тваіх ласкавых і жаданых рук,*
*Здаецца, не забыць ужо ніколі.*

* * *

*Не апошні ты ў мяне, не першы.*

*Анастасія РОГАЧ*

І куды ад гэтага падзецца,
Я таго не ведаю сама.
Побач ты са мной сядзіш, здаецца,
А як лепш прыгледжуся – няма.

Часам успрымаю чуйным сэрцам
(Гэта лепш, чым спевы салаўя),
Што кахаеш ты мяне, здаецца.
І цябе ў адказ, здаецца, я.

Верце ў тое вы альбо не верце,
Толькі ўжо няма прычын таіць:
Нас, здаецца, аж да самай смерці
Аніхто не зможа разлучыць.

Ды былое толькі не сатрэцца...
Буду помніць вечна, хоць стрынож,
Што ў мяне ты – гэта не здаецца –
І не першы, не апошні ўсё ж.



### Не тыя абдымкі

*У абдымках бяроз*
*Забываю пра сталы свой век.*

*Сяргей ДАВІДОВІЧ*

Усё меней жанчын абдымаю,
Пазбягаць я стараюся іх,
Бо сяброўкі ранейшыя знаюць
Моц гарачых абдымкаў маіх.

Не адна ад тых дотыкаў млела...
А цяпер – хоць крычы, хоць маўчы –
Толькі тое, што некалі грэла,
Больш не цешыць сягоння жанчын.

Нават жонка той збой заўважае
І, каб неяк развеяць нуду,
Мне налева хадзіць дазваляе,
Бо ўжо ведае, што не пайду.

На жанчын спадцішка пазіраю
І тады забываю на ўзрост...
Ды сябе маладым адчуваю
Я хіба што ў абдымках бяроз.

### У лабірынце рук і ног

*Спавядальны твой маналог*
*Я гатовы да ранку слухаць,*
*Каб на хвілю ўявіць адну хоць*
*Тайну рук тваіх, тайну ног...*

*Мікола ШАБОВІЧ*

У жыцці сваім шмат чаго мог –
І зрабіў я нямала нібыта,
А вось рук тваіх тайна і ног
Мной дагэтуль яшчэ не раскрыта.

Анатомію ў школе вучыў,
Мацаў косці ў сябе і ў суседа.
А з табою застаўся ўначы –
Аказаліся слабымі веды.

Мітусіўся ля ложка, бядак,
І сапеў ад адчайнай знямогі,
Бо я ўцяміць не мог аніяк,
Адкуль рукі растуць, адкуль – ногі.

Ты скасіла пагляд на парог,
Уздыхнула з дакорам: «Валера!..»
Я не стаў слухаць твой маналог,
Шмыгануў – толькі рыпнулі дзверы...








# Вясёлы шчадрэц

На пачатку студзеня 2020 года беларускія пісьменнікі-гумарысты сабраліся на «Навагодні шчадрэц». Імпрэза прайшла ў гасцёўні выдавецтва «Чатыры чвэрці», якім больш за 25 гадоў кіруе неардынарная жанчына Ліліяна Фёдараўна Анцух, сябра двух творчых саюзаў — пісьменнікаў і музычных дзеячаў.

Нагодай для такой сустрэчы стала «пяцігодка» выдання гумарыстычнай серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае». З 2014 года, часу яе заснавання, выйшла больш за дваццаць кніг вясёлага зместу. Сярод іх — зборнікі Міколы Маляўкі, Казіміра Камейшы, Міколы Чарняўскага, Леаніда Левановіча, Васіля Найдзіна, Міхася Пазнякова, Генадзя Аўласенкі, Міхася Слівы, Януся Мальца, Анатоля Зэкава, Міколы Шабовіча, Яўгена Хвалея, Алеся Камароўскага, Васіля Ткачова, Савелія Паўлава, Надзеі Салодкай, Аляксандра Мартыненкі, Рэгіны Рэўтовіч, Уладзіміра Цануніна, Андрэя Сідарэйкі, Аляксандра Жукоўскага, Ірыны Фамянковай, Пятра Радзечкі. Кнігі ілюстраваны карцінамі вядомага мастака Валянціна Губарава, які працуе ў жанры наіўнага мастацтва. Персанажы, паводле прызнання аўтара, — простыя людзі, якія не чыталі Гегеля і Канта, але яны бескарыслівыя, чыстыя сэрцам. У іх няма камерцыйнай жылкі, затое ёсць імкненне да шчасця. У аснове сюжэтаў часта прысутнічаюць успаміны дзяцінства і юнацтва, настальгічныя матывы, дэталі быту савецкага часу.

Шчадрэц — даўні вечаровы абрад перад Новым годам, уласна вечар, шчодры, часцей за ўсё, на розныя дзівацтвы і штукарствы. Напрыклад, маладыя дзяўчаты варажылі, хто хутчэй выйдзе замуж, кідаючы аладкі сабаку, а вясковыя падшыванцы здымалі, мянялі веснічкі суседзям, бялілі шыбы вокнаў... Пра гэта нагадалі вядучыя імпрэзы — пісьменнік Яўген Хвалей і рэдактар выдавецтва Жана Клімянок. Ну, а самі гумарысты чыталі творы, якія выклікалі на тварах шчырыя ўсмешкі. Не ўтрымацца было ад смеху ад вершаў, баек, пародый, гумарэсак, калі іх дэкламавалі Мікола Чарняўскі, Казімір Камейша, Янусь Малец, Васіль Найдзін, Рэгіна Рэўтовіч, Яўген Хвалей, Алесь Камароўскі, Генадзь Аўласенка, Анатоль Зэкаў і Мікола Шабовіч.

На вечары прысутнічалі галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Юлія Зарэцкая і яе намеснік мастак Аляксандр Каршакевіч. Ю. Зарэцкая павіншавала выдавецтва і яго аўтараў з «юбілеем» гумарыстычнай серыі, пажадала творчага плёну і запрасіла да далейшага супрацоўніцтва. А. Каршакевіч падарыў «карціну» — кубак чэмпіёнаў гумару. Усе аўтары, кнігі якіх выйшлі ў гэтай серыі, мелі магчымасць пакінуць на палатне свае аўтографы.

«Навагодні шчадрэц» гумарыстаў стаў добрай запеўкай для наступных імпрэз выдавецтва «Чатыры чвэрці». А планаў на выданне кніг у дваццатым годзе ў супрацоўнікаў шмат.

Чатыры квадры месяца...
Чатыры веку чвэрці...
«ЧЧ» займае месца
На вільчаку ў кніжным свеце...





**Яўген КМЕН.**

**Фотаздымкі Марыны ВАРАБЕЙ.**







# КАЛЕЙДАСКОП ГУМАРУ

*Жартоўныя вершы, байкі, эпіграмы, пароды, фірменныя вершастрэлы Яўгена ХВАЛЕЯ трапляюць дакладна ў цэль – выклікаюць шчырую ўсмешку, часта здзіўляюць нечаканымі асацыяцыямі і паралелямі, трапнымі параўнаннямі. Новая кніга аўтара «Год Парсюка», што пабачыла свет летась у выдавецтве «Чатыры чвэрці», гэта сапраўдны калейдаскоп гумару – розных жанраў і тэм, сітуацый, калізій... І хоць на дварэ ўжо год Пацука, актуальнасць кнігі ані не страчваецца. Бо жаданне жартаваць непадуладнае розным там гараскопам...*

**Яўген ХВАЛЕЙ**

## Бабулька і бульдог

Як пераехала я ў горад,
То шчасцем вёска ўжо здаецца.
Апанавала мяне гора:
Няма куды ад цюцькі дзецца...

Тут, браткі, звар'яцець нядоўга,
Пільнуючы ўвесь час бульдога.
Ці ён не ўкусіць, не набрудзіць
У кватэры – габарытнай будзе.

А па прыступках як іду
З паверха восьмага, дык дух,
Здаецца, выскачыць з мяне –
Уніз стралою пёс імкне.

Яму, як пану, дагадзі:
На шпацыр вечарам вядзі,
Бо цэлы дзень барбос-завала
Ляжыць, есць, п'е і брэша мала.

Нябось, такому ў вёсцы пану
Даўно б далі маршрут нязнаны...
А тут жа сыну і нявестцы
Чамусь прыемна з ім жывецца.

Яно-то так... не гняўлю Бога.
Але ж пісалі мне дадому,
Каб прыязджала дзетак нянчыць,
Аднак людскіх, а не сабачых...
Тых дзетак – двое – ў сад здалі,
А мне вось кару прывялі...

Скажыце, родненькія людцы,
Няўжо і вы ўсе не па-людску
Жывеце ў горадзе вялікім,
Не так, як там,
У нашых Ліпках?



## Майму злодзею

*(Сучасная эпістала)*



Скажы, у чым мая віна?
Абрабаваў маю кватэру,
Сатана.
Забраў ты рэчы –
Грошай не знайшоў:
Няма ў мяне
Набітых кашалькоў.
Няўжо твае наводчыкі-ганцы
Не ведалі,
Што ледзьве зводжу я канцы?




## Арол двара



– Певень – не арляк, –
Нехта скажа так.
А ў двары сваім здавён
Храбра
Пачувае ён.

## Было б чым...

Хваліўся фікус:
– Я высокі,
Я зялёны, глянь!
А збоч цвіла
Маленькая чароўная герань.

## Нуль без палачкі

Мовіў крэслу ганарысты стол:
– Побач ты не стой...
Адказала яму крэсла
(Тут Асоба толькі злезла):
– Без мяне ты – аніхто!

*Працяг рубрыкі на стар. 10.*

Заканчэнне рубрыкі. Пачатак на стар. 9.

# Адметнае бачыцца зблізку




*Вялікае бачыцца на адлегласці, а тонкае, адметнае — зблізку. Менавіта такім пільным позіркам глядзіць на нашу рэчаіснасць Сяргей ЛАПЦЁНАК, пераўвасабляючы назіранні ў трапныя чатырохрадкоўі. За яго кнігай «Зблізку гледзячы», што пабачыла свет у сталічным выдавецтве «Белпрынт», стаяць гады напружанай і настойлівай працы па адточванні майстэрства малой паэтычнай формы. Формы, якая вымагае сцісласці, але ў той жа час прадугледжвае глыбіню зместу.*

*Усміхаючыся з нечаканых аўтарскіх высноў, праз нейкае імгненне чалавек ужо праводзіць паралелі са сваім вопытам, уласным светабачаннем — а гэта значыць, асэнсоўвае матэрыял не толькі на «жартоўным», але і на «сур'ёзным» узроўні. Такі інтэлектуальны гумар несумненна прыйдзецца даспадобы самаму патрабавальнаму чытачу.*

*Віншуем Сяргея Антонавіча з творчым поспехам, а яшчэ — з 55-годдзем, якое ён адзначае ў лютым. Зычым невычэрпнага натхнення і аптымізму, здароўя і бадзёрасці!*

**Сяргей ЛАПЦЁНАК**

## МІНІЯЦЮРЫ



Не возьмеш талент у арэнду!
Дык, пэўна, свой зашыю рот,
Бо ёсць народныя легенды,
А я — хадзячы анекдот.

* * *

Ад гэтай думкі мне бывае непамысна:
Ну як жа сумясціць прыемнае з карысным?
Навучышся прыемнасць карыснаю рабіць —
Тады лічы, мой дружа, што навучыўся жыць.

* * *

Дзяцюк на рынку з курыцай прысеў...
— Што просіш?
— Дзвесце баксаў!
— Кошт хар-рошы!.. А што, мо яйкі з золата нясе?
— Не... Разумееш... Вельмі трэба грошы!



* * *

Калі пустая галава,
То ўсё адно, што ў пазалоце,
Бо колькі ні кажы «халва»,
А саладзей не стане ў роце.



* * *

Мне ў вочы кажуць, што дзівак,
Страшэнны цынік, лапаць, непрактычны...
Я згодны: гэта праўда, гэта так.
Папраўдзе, цынік. Але ж — рамантычны.




* * *

Манера гутаркі павінна быць адна:
Каб суразмоўца зразумеў і не чапляўся,
Або — каб ён не ўцяміў ні ражна,
Але пры гэтым задаволены застаўся!

* * *

Як сам каго без меры паважаеш,
Шануеш, бы анёла ў зорным пыле,
На жаль, на тое часам не зважаеш,
Што ў «серафіма» з перапонкай крылы...

* * *

— У Канаду еду! — аб'явіў Ярома. —
Нашых там багата. Буду жыць, як дома.
— Што ты, братка, кажаш! — рагатнуў Фама. —
Там усе свае! А нашых жа — няма...

* * *

На жаль, не ўсе надзеі збудуцца,
Калі за блізкіх сэрца разрываецца:
Заўжды дапамагаў — забудуцца!
А раз адмовіў — мігам прыгадаецца...






**Андрэй СІДАРЭЙКА**

**22 сакавіка – Міжнародны дзень гультайства.**

**Афіцыйна**

*Свята гультайства нарадзілася ў Калумбіі ў 1985 годзе. Гэтую ідэю запазычылі шматлікія краіны. Галоўнае ў такі дзень – нічога не рабіць, а атрымліваць асалоду ад кожнага моманту жыцця.*

# САМЫ ЦЯЖКІ ДЗЕНЬ

*Гумарэска*

Нейк у інтэрнэце сантэхнік Мікола прачытаў, што 22 сакавіка адзначаецца Міжнародны дзень гультайства. Да таго ж, свята выпадала на нядзелю. Атрымлівайся нібыта двайны выхадны. Таму мужчына вырашыў: у такі дзень грэх нават пальцам да нечага дакранацца. Толькі адпачынак. Пра сваё рашэнне ён паведаміў і жонцы Машы. Тая ўсміхнулася, а потым прамовіла: «Ну-ну... Паглядзім».

Міколу, вядома, такі жаночы скептыцызм не спадабаўся. У суботу, напярэдадні свята, ён вынес смецце, выбіў на вуліцы дыван, нават прыгатаваў сняданак на наступны дзень – макарону з сасіскамі. Раніцай заставалася толькі разагрэць у мікрахвалёўцы. Прыгатаванне кавы мужчына не лічыў за працу.

...На наступны дзень мабільны тэлефон зазваніў у дзевяць гадзін. Мікола з вялікай неахвотай падняў трубку. Тэлефанавала цешча. Усхвалявана залапатала, што сёння яны з цесцем выправіліся на кірмаш, дзе выпадкова натрапілі на танную і, па водгуках пакупнікоў, вельмі смачную бульбу.

– Зяцёк, можа, выручыш з машынай? Мы адразу два мяхі хочам узяць, пакуль ёсць, – папрасіла кабета.

Хіба ёй растлумачыш, што ёсць такі Міжнародны дзень гультайства?

«Добра, адскочу на якую гадзіну, – вырашыў Мікола. – Затое потым вярнуся, лягу ў ложак, адключу тэлефоны і нават пальцам больш не варухну. А што паснедаць нават не паспеў – не бяда, у цешчы нешта на зуб кіну...»

Жончыны бацькі, вядома, былі вельмі рады Міколу. Той не толькі падвёз ім бульбу да дома, але і на сваіх плячах занёс мяхі ў кватэру.

Толькі селі за стол, як у дзверы пазванілі. На парозе стаяла маркотная суседка-пенсіянерка.

– Нешта здарылася? – занепакоілася гаспадыня.

– На кухні кран сапсаваўся. Можа, твой муж зірнуў бы? – з надзеяй запыталася старая.

– У мяне зараз і зяць у гасцях. Ён, ведаеш, які сантэхнік і добры чалавек? Такіх яшчэ пашукаць трэба! – пахвалілася цешча і звярнулася да Міколы. – Зяцёк, можа, дапаможаш нашай адзінокай суседцы? Я ж ведаю, у цябе залатыя рукі!

– І такое ж сэрца, – дадаў цесць.

Як пасля такіх слоў адмовіш? Давялося дапамагчы.

Так і не пасядзеўшы як мае быць за цешчыным сталом, Мікола зазбіраўся да жонкі... Прыпаркаваўшыся каля свайго дома, ён убачыў, як знаёмы Воўка корпаецца ў машыне. Хацеў прайсці міма, але не змог. Прапанаваў дапамогу. Пакуль аўтамабіль завёўся, разам правалаводзіліся каля дзвюх гадзін. Рукі ад мазуту былі ўсе чорныя! Выціраў іх хвілін пяць анучай, а потым зайшоў да суседа і столькі ж часу мыў пад кранам спецыяльнай пастай. Затым паімчаў да сябе.

На кухні смачна пахла. Мікола кінуўся за стол. У ход пайшла не толькі макарона з сасіскамі, але і боршч, салата, бутэрброды...

Маша чамусьці не распытвала яго, дзе ён столькі быў. Не вытрымаўшы, муж распавёў пра свае прыгоды сам.

– Так што бібікі біць у Міжнародны дзень гультайства ў мяне не атрымалася...

– Затое ў цябе атрымаўся дзень дабрачыннасці, – з усмешкай адказала жонка. – А пагультайнічаць яшчэ будзе нагода. У адпачынку, напрыклад. Мы ж збіраемся на мора.

Мікола таксама ўсміхнуўся. Сапраўды, выдаўся нейкі дзень дабрачыннасці. Цікава, ці ёсць такі на самай справе? Але нічога, на наступны год ён падрыхтуецца да свята як след: выключыць мабільны і дамашні тэлефоны, а ў аптэцы набудзе бірушы. Галоўнае – не ленавацца!..

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*

**Між іншым**

*Акрамя Міжнароднага дня гультайства і 8 Сакавіка, у першым месяцы вясны вы можаце адзначыць шэраг іншых свят: 1 сакавіка – Міжнародны дзень камплімента, 3 – Сусветны дзень «пятай кропкі», 9 – Дзень Барбі. Калі вы даўно марыце задаць каму-небудзь пытанне, можаце зрабіць гэта 14 сакавіка. Вам не адмовяць, бо менавіта пад гэтай датай значыцца Сусветны дзень задаванняў пытанняў. Калі ж надакучыла штодзённая работа, то ваш дзень – 31 сакавіка: Міжнароднае свята «зволься з работы, якая надакучыла»...*




*(Паводле Артура ДОНАХ'Ю, ЗША)*

Пасля дзесяці гадоў паспяховага сямейнага жыцця я і мая жонка Дэбора можам спакойна гаварыць, што ведаем сакрэт здаровай сям'і. І зараз ужо, бадай, не знойдзецца нешта такое, здольнае нас разлучыць. А паколькі я не баюся, што мяне сурочаць, то падзялюся з вамі нашымі сакрэтамі здаровай сям'і.

Першы сакрэт: мы з Дэбораю спім на розных ложках. Яна – прынцыпова ў Нью-Ёрку, а я – у Чыкага, Дэтройце, Сан-Францыска – у залежнасці ад таго, дзе мяне ноч застане.

Другі: хоць і спім мы з Дэборай паасобку, але рэгулярна двойчы на тыдзень ходзім у рэстаран, дзе, не вельмі думаючы пра ашчаднасць, вячэраем разнастайнымі смачнымі стравамі, запіваючы іх вытрыманым вінам. Дэбора ходзіць у рэстаран кожную сераду, а я – па пятніцах.

Трэці: з задавальненнем часта падарожнічаем з Дэбораю па розных куточках Штатаў. Цудоўна тое, што ёй заўсёды ўдаецца знайсці патрэбную дарогу, каб дабрацца дадому самой.

Чацвёрты: усё наша сумеснае жыццё, ад самага пачатку да цяперашняга часу, мы з Дэборай закахана трымаемся за рукі, бо як толькі адпускаю яе – пачынаецца марнатраўства.

Пяты: Дэбора часта накладвае на твар касметычныя маскі і тады на цэлыя два дні робіцца вельмі мілай. Але ўрэшце, на жаль, здымае маску.

Гэта – правілы, якія дазваляюць нам зберагаць нашу сям'ю моцнай і здаровай. І гэта ўжо дзесяць гадоў так, нават пры тым, што мы з Дэборай былі разам у вясельным падарожжы.

...А можа, у вас ёсць свае сакрэты?

**Перастварыў Міхась СЛІВА.**
*«Ідэальная жонка»*
*(паводле твораў замежных пісьменнікаў), Мн., 2019 г.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Пётр КОЗІЧ.

# Ах, жа

Вітаючыся, так падавала руку, нібы аддавала сябе цалкам.

Бландзінка... Гэта лёс ці прызванне?

На фоне прыемных жаночых форм іншыя мужчыны выглядаюць такімі бясформеннымі!



Залатыя рыбкі плаваюць не толькі ў моры або акварыуме, але і ў шыкоўным басейне.

Жонка ў мяне не вельмі разумная. Вось ужо дваццаць гадоў тлумачу ёй, што ў доме гаспадар я, а яна не верыць. Але дае мне з маёй зарплаты рэшту на цыгарэты.



# ...нчыны!

Пасля маёй прапановы яна крыху падумала і пагадзілася пайсці. У банк. Паручыцелем.

Сярод жанчын ёсць розныя тыпы. І цыпы.

Што ў нецвярозай жанчыны ў галаве, не кожнаму цвярозаму мужчыну пад сілу.

Хацела заняцца шэйпінгам. Але перамог шопінг.

Аб'яўляецца конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады жонкі. Стаж не менш за пяць гадоў. Характарыстыка з папярэдняга месца — абавязковая!




**Заўважыў Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Анатоль ГАРМАЗА.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

**Галіна БАБАРЫКА**

# ПАХВАЛІЎ

## з натуры

Калі Стася, нагатаваўшы розных страў, пытае ў мужа: «Смачна?», той звычайна адказвае: «Еж, дый годзі». Крыўдна, хоць плач! Кабета страшыць мужа, маўляў, у наступны раз пакладзе яму замест ежы... сена. Паслухае, што ён тады скажа, ці да смаку будзе такая «страва».

Неяк пад настрой напякла, наварыла, насмажыла... Стась задаволены: «І пірагі ўдаліся, і боршч смачны, і катлеты з бульбай растаюць у роце»... Гаспадыня радасна ўсміхаецца — хоць адзін раз пахваліў! А муж дабаўляе: «Я сёння надта галодны, дык мне ўсё здаецца смачным».

*Столінскі раён,*
*в. Мачуль.*




Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## *Людзі кажуць...*

*Хочаш мужа багатага, прыгожага, разумнага і добрага — давядзецца выходзіць замуж чатыры разы. А калі яшчэ і непітушчага, то ўсе пяць.*

**Пачула Людміла ЮШЫНА,**
*г. Баранавічы.*




У Сымона шмат дзяўчат,
Як на ферме — куранят.



Жыць на свеце аднаму,
Як пню гарэламу таму.

Калі прыспічыць ажаніцца,
За дзеўку сыдзе й маладзіца.



Кожны хлопец — заліхвацкі,
І дзяўчаты ў нас, як цацкі!

Хто на каханне не хварэў,
Той мёду лыжкаю не еў.



Хто любіць рыжых, хто — насатых,
А я дык млею ад вусатых!

**Даслала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Баранавічы.*



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Адзін сябар кажа другому:

— Дык што, ты ўжо расстаўся са сваёй новай сяброўкай?

— Так, не змог прывыкнуць да яе носа бульбінкай.

— Ну, нос бульбінкай бывае вельмі прывабным...

— Бывае, але ў яе нос бульбінкай фры.

* * *

Вучоныя змадэліравалі свет без мужчын: ні аднаго злачынства, ніякіх войн і наркотыкаў і шмат шчаслівых, тоўстых, нენафарбаваных жанчын.

* * *

Калі маладзіцы няма болей у каго закахацца, яна ўлюбляецца ў халадзільнік.

* * *

Іншая кабета, як марожанае: халодная, але салодкая. Іншая — як капуста: гарачая, але кіслая.

* * *

Блізарукі пажарнік тры гадзіны тушыў рыжую жанчыну.



**Прачытаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*







Ёсць такія ў нас дзяўчаты:
Трэба ім жаніх багаты,
Каб машыну меў, кватэру,
Каб у водпуск — на Фарэры.

З гэтай мэтай раніцой
Аздабляюць воблік свой.
У салоне касметычным
Ім знаходзіцца прывычна.

Крояць твар, нібы тканіну...
Не пазнаць пасля дзяўчыну.
Вусны — як у качкі!
Што ж вы так, зямлячкі?

Вечарынкі-паляванні
Ў модных клубах для спатканняў...
Толькі толку ў гэтым мала:
Лялькаю дзяўчына стала.

Можа, хто з ёй пагуляе...
Ў жонкі ж трэба не такая.
Замест знешняй «прыгажосці»
Мо ў душы змяніце штосьці?



**Зоя ШОХЦІНА,**
*г. Мінск.*

**Наталля ШАСТАКОВА**

# Аварыйная сітуацыя

*Жыццёвае*

Еду неяк у аўтобусе. Людзей няшмат, але ўсе месцы занятыя. Я сяджу побач са сталым, добра апранутым мужчынам. Моўчкі назіраем з ім за маладым хлопцам, які выпіў лішняга і хістаецца.

Неўзабаве каля яго праходзіць кандуктар. Дзяцюк гучна просіць:

— Адчыніце люк, а то вельмі горача.

— Не магу, — адказвае жанчына і паказвае пальцам уверх. — Бачыце: там напісана, што адкрываць толькі ў час аварыі.

— Ага! — узрадаваўся п'яны. — Усё ж такі можна!

— Я ж вам кажу, — злуецца яна. — Толькі ў час аварыі.

— А вы ведаеце, як у мяне зараз унутры ўсё гарыць? Самая сапраўдная аварыйная сітуацыя! — настойвае хлопец.

— П'яны, але розум не прапіў, — усміхнуўся мой сусед. — Трэба адчыняць той люк...

*г. Гомель.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Чым малаціць?

Калі маленькаю была —
З бацькамі Ліза не тужыла,
Бо да абеду спаць магла,
Штодзень прысмакі малаціла.

Так пралятаў за годам год,
Дарослаю дзяўчына стала.
Але праз страўнік свой і рот
Пад сотню кілаграм прыдбала.

Сяброўкі замужам даўно,
І кожная дзіцятка мае.
А Ліза ўсё глядзіць ў акно
Ды прынца на кані чакае.

Але такую, як яна,
Не здолее ні адзін асілак
Ўсадзіць на белага каня
І паімчаць у ранак сіні.

Таму дзяўчат і выбіралі
Тых, што улазілі ў сядло.
Да шлюбу з імі і скакалі,
Яе мінаючы акно...

Здаровым і шчаслівым быць —
Не дар, а ўласная работа.
Не ротам трэба малаціць,
А цэпам — працаваць з ахвотай!

**Таццяна ЧЭКЕД,**
*г. Гомель.*




# Неперараўзыдзены гумарыст



Шарж Анатоля ГАРМАЗЫ.

*Пра паэзію Рыгора БАРАДУЛІНА і асобу творцы можна гаварыць бясконца, аднак словамі не заўжды ўдаецца перадаць глыбіню таленту, характару: як чалавек і пісьменнік дзядзька Рыгор невычэрпны. Лірык, публіцыст, эсэіст, дасведчаны крытык, а яшчэ — неперараўзыдзены гумарыст. Выпускнік філфака БДУ працаваў у рэдакцыях газеты «Советская Белоруссия», часопісаў «Бярозка», «Беларусь», «Полымя», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Рыгора Іванавіча заўжды любілі за тонкі гумар у вершах, трапныя эпіграмы і неверагодна прыгожую мову, якая ў паэта, па яго ўласных словах, ад маці, з роднай Ушаччыны.*

*Рыгор Барадулін — аўтар зборнікаў сатырычных і гумарыстычных твораў «Дойны конь» (1965), «Станцыя кальцавання» (1971), «Амплітуда смеласці» (1983), «Мудрэц са ступаю» (1988) і інш. З дня нараджэння творцы сёлета спаўняецца 85 гадоў, і гэта добрая нагода, каб у чарговы раз падзівіцца яскраваму таленту народнага паэта. І, вядома ж, усміхнуцца.*

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## Да чытача

Я дзякуй сказаць хачу
Цярпліваму чытачу,
Які ад паэтаў чакае,
Што горы салодкай маны
Святлом пратунэляць яны...

Чаканне —
Адказнасць цяжкая!



## Цягач і валакуша

*Сямейны партрэт*

Пад дахам адным
Столькі тэхнікі, бач.
Саюз іх не зрушыць
Ні мора, ні суша.
Са складу ўсё цягне дадому
Цягач,
З гасцей цягача валачэ
Валакуша!

## Пра футры

Дзе логікі жалеза?
Смяецца вывад хмуры.
Мужы са скуры лезуць,
Каб жонкі ўлезлі ў шкуры!

## Шпачыха шпаку

Іншыя жывуць шыкоўней.
Што я, горш за слонку?
Цешся сам сваёй шпакоўняй —
Я хачу
Дуплёнку!

## Высокае давер'е

Яму аказалі давер'е
Па самай высокай шкале:
Качалі ў смале ўсё
Ды ў пер'і,
У пер'і і — зноў у смале.
Да ўпаду
Стараліся звады
Адсыпаць спаўна барышоў.
Быў гол як сакол
Да пасады,
З пасады — касматы ішоў!

## УСМЕШКІ-ПЕРАСМЕШКІ

*Да спектакля купалаўцаў «Ажаніцца не журыцца»*

## Вяселле

Як надумаўся жаніцца,
Лось падаўся да лісіцы.

Толькі ліска
Ані блізка:



— У цябе ў кустах прапіска.
Як пасмееў прыйсці ты ў сваты,
Малады, а ўжо рагаты.

Да мяне забудзь дарогі —
Я й ваўку настаўлю рогі!

Лось рагаты,
Нежанаты
Ходзіць, быццам вінаваты.

## Як жыць з суседзямі

Ладзь з суседам чын па чыну,
Не давай для сваркі ўсчыну!
На спакой забудзься свой,
Загартуйся ў шуме, ў гаме,
Што ў цябе над галавой —
У суседа пад нагамі.

Столь табе,
Яму — падлога,
Не апала — дзякуй богу!

У суседа многа звестак
Пра зяцёў і пра нявестак.
Не чапайся — будзе горай,
Лепей ладзь
З паклёпканторӑй!
Абысці суседа лепей ж.
Не яго —
Сябе зачэпіш!

*«Амплітуда смеласці»,
Мн., «Мастацкая літаратура», 1983 г.*




Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Гумар, што «прарастае» з жыцця






*Любоў да літаратуры, да мастацкага слова праявілася ў нашай сённяшняй дэбютанткі – Святланы МАГІЛЕЎЧЫК – яшчэ ў дзяцінстве. Дзяўчынка выхоўвалася ў вясковай сям'і, дзе ўсе шмат чыталі. І аднойчы займела ўласную бібліятэчку: перацягала дадому з разабранага ў 90-я гады клуба кнігі, што ляжалі пад дажджом... У школе захапілася гісторыяй роднага краю, нават пачала пісаць невялікія даследаванні, вершы. І вельмі захацела атрымаць спецыяльнасць музейнага работніка. Так дзяўчына з вёскі Васількі Бялыніцкага раёна паехала вучыцца ў бібліятэчны тэхнікум у Магілёве.*

*Святлана Іванаўна адзначае: ёй пашанцавала і са спецыяльнасцю, і з працай. У 1999 годзе ў бібліятэцы ў вёсцы Вішоў зрабіла музейны куток, збірала краязнаўчы матэрыял, які друкаваўся ў раённай газеце «Зара над Друццю». Зараз атрымлівае адукацыю журналіста ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя Аркадзя Куляшова (хоць ніколі пра тое не марыла) і працуе ў гэтай газеце адказным сакратаром. Узгадвае, як у дзяцінстве ў вёску прыязджаў карэспандэнт з раёнкі: «Ён пісаў пра аднаго з маіх суседзяў, калгаснага перадавіка. Мы, дзеці, круціліся побач. Госць пытаўся «ні аб чым» – які ўраджай, што трымаюць дома з гаспадаркі, гаварылі пра надвор'е і жніво... Калі прыйшла газета, я пачытала артыкул і не зразумела: адкуль журналіст узяў усю інфармацыю, калі гаварылі зусім пра іншае? А яшчэ ён, карэспандэнт, падаўся мне лайдаком. Была ўпэўнена, што напішу лепш. Зараз, праўда, не хачу хваліцца, дайшла да яго ўзроўню. А каб лепш? Гэта пакуль яшчэ недасяжная мэта».*

*На напісанне буйных мастацкіх твораў, прызнаецца Святлана Іванаўна, часу нестае. А вось гумарэскі нібы «вырастаюць» з жыцця – трэба толькі ўключыць прыродную назіральнасць. «Назіранкі-цікавінкі», як каштоўныя камяні, захоўваюцца ў памяці, каб у нейкі момант «прарасці» вясёлым творам. Адзін з іх прапануем вашай увазе.*

**Святлана МАГІЛЕЎЧЫК**




*Гумарэска*

Сёння на сняданак замест вялікай патэльні свежай яечні жонка паставіла перада мной талерку звычайнай аўсянкі.

– Гэта карысна, – сказала яна, перамешваючы лыжкай шэрую цеплыпуху. – Англічане штораніцы ядуць аўсянку і вельмі добра выглядаюць.

– Што мне тваё англічане? – абурыўся я. – Мне б шматок сала ці блін з маслам... На адной аўсянцы гайкі не пакруціш.

– Многа ты ведаеш! – буркнула мая палавіна. – Дарэчы, і ў гараскопе напісана, што Цяльцам, а гэта значыць табе, мясное сёння нельга. А зоркі, сам ведаеш, маніць не будуць.

Я прамаўчаў, бо не было часу ні спрачацца, ні смажыць яечню. Наспех праглынуў ненавісную кашу і паімчаўся на працу.

Хлопцы, пасмяяўшыся з ранішняй неспадзяванкі, пачаставалі бутэрбродамі з каўбасой. Але праз якую гадзіну жывот скруціла так, што я ледзь дабег да запаветных дзвярэй з літарай «М». Вось і не вер зоркам...

Тэлефаную сваёй, пытаюся:

– Што там яшчэ па гараскопе нельга?

– Стасункі з начальствам, – кажа, – неспрыяльныя.

Эх, зоркі... Як несвоечасова! Якраз сёння хацеў падысці да Івана Пятровіча, пагаварыць наконт адпачынку. А цяпер хоць ты з прыбіральні не паказвайся ўвогуле.

Як на тое ліха, Іван Пятровіч абшукаўся мяне. Прывезлі новыя запчасткі да машыны, трэба прыняць, распісацца, а мой і след прастыў. Лаяўся, кажуць, моцна! А што я? Гэта ўсё зоркі...

Вечарам, змораны і незадаволены, прыцягнуўся дадому.

– Што там яшчэ ў гараскопе? – зноў пытаюся ў жонкі.

— Трэба звярнуць увагу на знешні выгляд, — параіўшыся з газетным артыкулам, адказвае яна. — Пагаліся.



Я пасунуўся ў ванну, хоць ногі ўжо самі ішлі да ложка. Калі зоркі гавораць — значыць, трэба. Але як толькі намыліў шчокі, скончылася вада. Вось табе і знешні выгляд! Раззлаваўся і парваў газету з гараскопам на кавалачкі...

Раніцою ўстаў на паўгадзіны раней, насмажыў вялікую патэльню яечні. Жонка, бачу, пакінула калупацца ў сваёй аўсянцы і раз-пораз цягнецца з відэльцам у маё снеданне.

Добра пад'еў, адчуў сябе чалавекам. На працы пастараўся, адрамантаваў тэхніку як мае быць. Гэта ж не на галодны страўнік гайкі круціць. Іван Пятровіч працу пахваліў, заяву маю падпісаў і нават дапамогу паабяцаў.

Як на крылах прыляцеў дадому. Адчыніў дзверы, а там сюрпрыз чакае. Ляжаць у прыхожай скручаныя паласы ды выбівалка. А ў жонкі ў руках — новы гараскоп.

— Сёння зоркі прадказваюць сямейныя клопаты, — кажа яна і запытальна на мяне паглядае.

— Дзякуй за навіну! — радасна адказваю я. — Значыць, будзем клапаціцца пра духоўны свет нашай сям'і. Збірайся ў кіно!

Жонка паспрабавала адмовіцца, але потым прыгожа апранулася, узяла мяне пад руку ды нечакана пацалавала ў шчаку. А я што? Гэта ўсё зоркі...




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

Казімір КАМЕЙША




І там, дзе цемра, як турма,
Спакою вечнага няма.
А клопат ёсць, чаму ж, чаму ж...
Ідзе перасяленне душ.

Бягуць, нясуць ахапкі руж.
Іграюць туш, і цямяць слаба.
Ідзе перасяленне душ
Глабальнага маштабу.

Хто прыляцеў, хто прыкульгаў,
Для кожнага — адна чарга.
Перасяляйцеся... Пара...
Хто — ў авадня, хто — ў камара.
А хто маруда трошкі,
Згаджаецца — і ў мошку.
Ды сорам. Гэта ж — драбната.
Куды ўжо лепей — у ката.
А той падаўся ў авадня.
Ніхто не згодны — у каня.
А як вам доля мураша?
За ім бяжыць чыясь душа.
Свет прагне толькі аднаго —
Куды і як, ды і ў каго...

Эх, як перасяліцца б,
Каб жыць і весяліцца?!
Я птушкі гэткай не знайшоў,
Застанься ўсё ж, душа, душой!..






# БІМ-«СМЯЛЬЧАК»

У мяне сабачка ёсць,
Кемлівы, прыгожы.
У яго густая поўсць,
Спаць на снезе можа.

Ён яшчэ маленькі, Бім,
Ды такі лагодны!
Не кусаецца зусім,
Нават як галодны.

А гарэзлівы які —
Весела нясецца,
Гаўкае на ўсе бакі,
Нібыта злуецца.

Бім перад катом — смяльчак:
Па двары ганяе.
А ад пеўня — вось дзівак! —
Куляй уцякае.

**Сцяпан ЦАРЫК,**
*г. Брэст.*



## Адшукай 10 адрозненняў.





Анастасія СКАРКО.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# ДРАЖНІЛКІ



### Сяргей

Ты, Сярожа, не ўсміхайся,
Лепш дадому паспяшайся.
Добра вымыйся пад душам,
Не забудзь, глядзі, пра вушы.

### Вадзім



Вадзім, Вадзік, Вадзяня
Запрагае кацяня,
Хоча Вадзік пакатацца —
Будзем доўга мы смяяцца.

### Вера



Верка-цяцерка,
Крыху памаўчы.
Вось табе цукерка,
І не балбачы.

### Радзівон

Радзік, Радзівон
Распалохаў варон.
Певень напаткаўся —
Сам перапужаўся.



### Андрэй

Наш Андрэйка, Андрэй
У рацэ купаўся.
А як даў нырца глыбей —
Шчупаку папаўся.



**Генадзь АЎЛАСЕНКА**




## ЯК ВЫНАЙСЦІ ВЕЛАСІПЕД?

*Дакладней, новы від спорту. Вельмі проста! Трэба ўзяць за аснову той ці іншы, які рэальна існуе, і вызначыць для яго нейкія новыя правілы. Часам — даволі арыгінальныя і нават абсурдныя.*

### На горным веласіпедзе па... балоце

Такі від спорту не толькі існуе, але з кожным годам становіцца ўсё больш папулярным. Па ім нават чэмпіянаты свету пачалі праводзіцца.

Уяўляеце: канава з бруднай смярдзючай вадой і ўдзельнікі спаборніцтва, якія па пояс у гэтай густой вязкай жыжцы адчайна цісНуць на педалі. Ну, а перамагае, вядома ж, той, хто першым прыйдзе да фінішу. Тут вынаходнікі балотнай гонкі нічога змяняць не сталі.



### Балотны... футбол

Калі ёсць балотны велаaспорт, то чаму б не быць балотнаму футболу? І ён сапраўды існуе.

Зарадзіўся гэты экстравагантны від спорту напрыканцы мінулага стагоддзя ў Фінляндыі (яно і не дзіўна: столькі балот наўкол), а зараз набірае папулярнасць па ўсёй Скандынавіі і нават да Шатландыі дабраўся.

Памер балотнага поля ў два разы меншы чым звычайны, два таймы таксама больш кароткія (па 13 хвілін). А ўсё астатняе, як і ў сапраўдным футболе... Вось толькі існуе строгае правіла: нельга пераабувацца ў час гульні, нават калі пакінеш свой красовак у балотнай жыжцы.

### Галоўнае — добра... выпіць

Зноў вернемся да веласпорту. Дакладней — да аднаго даволі арыгінальнага спаборніцтва, якое праводзіцца ў рамках штогадовага фестывалю піва ў Цэнтральным Уэльсе.

Гэтая велагонка праходзіць не па балоце, а па звычайнай трасе. Але ёсць асаблівасць: некалькі кантрольных пунктаў, на кожным з якіх удзельнік павінен спыніцца і... выпіць пэўную колькасць спіртнога.

Вядома ж, вызначаецца і пераможца. Праўда, галоўная задача кожнага з веласіпедыстаў — урэшце даехаць да фінішу, а не зваліцца пасля чарговай дозы. Дапамагаюць не толькі спартыўныя навыкі, але і ўстойлівасць арганізма «спартсменаў» да ўздзеяння алкаголю.




### Гонкі па рацэ Тодд

Існуе адметны водны від спорту — гонкі на драгонботах (драконах). Драгонбот — гэта вялізнае каноэ з галавой і хвастом дракона (а як інача: гэты від спорту зарадзіўся ў Кітаі). Дваццаць грабцоў — па дзесяць з кожнага боку, наперадзе — барабаншчык, задае рытм, у хвасце — рулявы. Ну, а перамогу атрымлівае той экіпаж, які першым прыйдзе да фінішу.

Гэта ў звычайных спаборніцтвах. А вось у Аўстраліі, у горадзе Эліс-Спрынг прыдумалі сухапутныя гонкі на драгонботах. У лодках няма дна, і экіпажы не грабуць, а бягуць да фінішу, прытрымліваючы судна. Чаму ж такія сухапутныя спаборніцтвы называюцца «гонкамі па рацэ Тодд», дальбог, не ведаю.

### Гарбузовая рэгата

Гэтыя выпрабаванні, як і звычайная рэгата, адбываюцца на вадзе. Вось толькі размяшчаюцца спартсмены не ў байдарках альбо якіх іншых спартыўных лодках, а ў вялізных... гарбузах, з якіх выдалена ўнутранае змесціва.

Такія спаборніцтвы на дыстанцыю 800 метраў праводзяцца ў канадскай правінцыі Новая Шатландыя ўжо на працягу пятнаццаці гадоў. Тут галоўнае — не толькі моцна грабці, але і ўтрымліваць гарбузную лодку ў правільным накірунку, бо вельмі ўжо яна вёрткая і непрадказальная.




## «Настрыг...»

***Мінск.*** Сталічны жыхар ніколі не працаваў цырульнікам, аднак абяцаў навучыць гэтаму майстэрству іншых. Хлопец заключыў з трыма мінчанамі дагаворы з перадаплатай за курсы барбераў, але пасля атрымання грошай знік. Заняткаў падманутыя так і не дачакаліся, а махляр «настрыг» больш за 800 рублёў. Вось дык «барбер»!



## Сакрэтны інгрэдыент

***Рагачоў.*** Згодна з паданнямі, ведзьмы выкарыстоўваюць для прыгатавання зелля сакрэтныя інгрэдыенты — напрыклад, трусіныя або жабіныя лапкі. А маладзён, напэўна, вырашыў зварыць нешта зусім незвычайнае і запатрабаваў у гаспадыні прыватнага дома... лапу аднаго з кентаўраў. Але не сапраўднага, міфічнага. Дзве скульптуры гэтых фантастычных жывёл стаялі побач з будынкам. Калі ж пачуў адмову, дык адламаў у адной з іх канечнасць...

«Мага» затрымалі. Яго чакае зусім не міфічнае пакаранне.



## Не ўбачыў

***Полацк.*** У лазернага дальнамера выключныя магчымасці. А вось злодзей, якому ён спадабаўся ў краме, бачыў не далей за свой нос. Таму спачатку ўкраў тэхніку коштам амаль 600 рублёў, а потым прадаў у шэсць разоў танней.

Між тым, час ад злачынства да сустрэчы са следчымі праляцеў у імгненне вока. Гэта і без складаных прылад відавочна.

## Мары збываюцца

***Баранавічы.*** Бойцеся ўласных жаданняў: яны маюць уласцівасць здзяйсняцца... Менавіта такая гісторыя адбылася з нецвярозым рабочым завода «Атлант», які не хацеў ісці на працу. Але не прыдумаў нічога лепшага, як патэлефанаваць у міліцыю і схлусіць, што прадпрыемства замініравана.

Мара мужчыны ажыццявілася, нават у большым памеры. Замест адпачынку на адзін дзень яго чакаюць доўгія «выхадныя» — да пяці гадоў. Менавіта на такі тэрмін аматар адпачынкаў можа трапіць за краты.

## Яечня не вечна

***Капыль.*** Нездарма кажуць, што чужая яечня не вечна. Капыльчанка выдумала бізнес, звязаны з уцяпленнем трубаправодаў, але грошы на яго пазычала рэальныя. І калі фінансы расходаваліся, знаходзіла новых даверлівых кліентаў... Такім чынам, летась яна паласавалася «яечняй» з 160 тысяч долараў, 510 тысяч расійскіх рублёў і 18 тысяч еўра.

Цяпер «прадпрымальніцы» давядзецца пагаладаць. Вядзецца следства...



*Па інфармацыі прэс-цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.*







Пётр КОЗІЧ х 2.

# Малпа на сене

*Крыжаванка*



**Па гарызанталі:**

**1.** Бывае высокага палёту. **5.** З яе не раяць выносіць смецце. **7.** Стаіць на трэцім месцы пасля свабоды і роўнасці. **8.** «А той ... / П'яніца пракляты...» *(з беларускай народнай песні)*. **9.** Пястун бабы і дзеда. **11.** Не рабочы і не выхадны дзень. **12.** «Белая варона» сярод стандартных дэталяў на канвееры. **13.** Здараецца, што на ёй пішуць віламі. **14.** Стары ... лепш за новых двух *(прыказка)*. **15.** Несур'ёзная, часам фрывольная п'еса. **17.** Людзі кажуць, што першая ... ад Бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта. **19.** Выдатна, калі яны залатыя, а не дзіравыя. **21.** Ён не таварышуе са свіннёй. **23.** Вынік сяброўства малпы з працай. **24.** ... ластаўка вясны не робіць *(прыказка)*. **25.** Лічыцца, што яна ўсё сцерпіць.

**Па вертыкалі:**

**1.** Самы галоўны на будоўлі. **2.** Вечны антаганіст сабакі. **3.** Балотная птушка са слабымі нервамі. **4.** Лепш, чым адзін. **6.** З'яўляецца, калі нешта вельмі надакучыць. **8.** Абавязковы «бонус» на дзень нараджэння. **10.** Лепшае надвор'е для песіміста. **14.** Без яе не будзе абаранка. **16.** Некаторыя чамусьці вырашаюць касіць яму сена. **18.** На ёй шчыруе і земляроб, і літаратар. **20.** Старыя лавеласы любяць згадваць: «Быў ..., калі любілі дзеўкі і нас». **22.** Пераможны вокліч.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

**Адказы на старонцы 24.**




**Анекдоты ад Алены Віктараўны КУБЫШКІНАЙ,**

*дырэктара Цэнтральнай бібліятэкі імя Янкі Купалы (г. Мінск)*

Мне падабаецца прынцып цягніка: ён не чакае таго, хто не чакае яго.



Толькі сумаісты і шахматысты ахвяроўваюць сваёй фігурай дзеля перамогі.



Жанчына верыць, што два ў два будзе пяць, калі як мае быць паплакаць, а затым учыніць скандал.



– Мала таго, што сусед учора да ночы святкаваў свой дзень нараджэння... Сёння раніцой высветлілася, што нехта падарыў яму перфаратар!



– У маёй жонкі самая кепская памяць на свеце!

– Нічога не памятае?

– Наадварот: памятае ўсё!



Мне ўчора параілі ад кашлю піць рамонак. Цяпер я кашляю-не кашляю, кашляю-не кашляю...



«Можа, я ўсё ж апярэджваю падзеі?» – сумнявалася дзяўчына, апранаючы на першае спатканне вэлюм.



У прараба Іванова было жалезабетоннае алібі.



Крымінальныя навіны. Сёння ў ДК чыгуначнікаў заезджы аферыст пад выглядам твораў Ліста дзве гадзіны іграў публіцы, якая ні пра што не здагадвалася, ...Шуберта!

16+

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 2 (1577), 2020 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Алена КЕДА *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*, Анастасія СКАРКО *(мастацкі аддзел).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефон галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 244-92-37, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 10.02.2020. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,26. Тыраж 538 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61,
220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

## Адказы на крыжаванку «Малпа на сене» *(стар. 23)*

**Па гарызанталі:**

**1.** Птушка. **5.** Хата. **7.** Брацтва. **8.** Пяты. **9.** Унук. **11.** Свята. **12.** Брак. **13.** Вада. **14.** Друг. **15.** Фарс. **17.** Жонка. **19.** Рукі. **21.** Гусь. **23.** Чалавек. **24.** Адна. **25.** Папера.

**Па вертыкалі:**

**1.** Прараб. **2.** Кот. **3.** Каня. **4.** Два. **6.** Аскома. **8.** Падарунак. **10.** Непагадзь. **14.** Дзірка. **16.** Сабака. **18.** Ніва. **20.** Час. **22.** Ура.

# Галерэя не старэе

М. ЧУРКО, *1963 г.*



Набіваюць цану.



Трэнер: — Калі што якое — не забывай, што ў цябе першы разрад па бегу.

В. ЖДАН, *1967 г.*



— Весяліся, братва, закуска ёсць!

А. ВОЛКАЎ, *1959 г.*



— Я табе пастраляю, нягоднік, і так тром жонкам аліменты плачу!

М. ГУРЛО, *1963 г.*



С. РАМАНАЎ, *1961 г.*




**Як прыйдуць Грамніцы —
скідай рукавіцы.**

Хапай у рукі кашалёк —
падпіску не пускай на самацёк.
Падпішыся на «Вожык»!



## НІБЫ ДОКТАР, НІБЫ ЛЕКІ!




Жонка сумная з дарогі –
Баляць рукі, баляць ногі...

Я кажу: «Адпачывай!
Прыйшоў «Вожык» – пачытай!»

Як з часопісам прысела,
На вачах павесялела.

Прачытала жонка штось –
І прапалі сум і злосць.

Знайшла сілы зноў устаць,
І варыць, і прыбіраць...

У парадку гаспадарка.
А калі ўзнікае сварка,

Ведаю, чаго ёй мала –
Жонка «Вожык» не чытала!

Пакладу на табурэтку
Я часопіс неўпрыкметку.

Выйду моўчкі пакурыць...
Зірк пасля – як мае быць.

Жонка болей не злуецца,
А чытае і смяецца.

Бо наш «Вожык» чалавеку –
Нібы доктар, нібы лекі!




**Іван АСТРОЎСКІ,**
*г. Мінск.*




## *Чытайце ў наступным нумары:*

Дзе знаходзіцца царства маўчуноў?

Як Дзюма застаўся жывым пасля смяротнай дуэлі?

Ці бывае дуэль на сасісцы?

Пра што Муза гаворыць з паэтам?

Што чытаюць коні?



## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ЛЬГОТНЫ**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**

**ВЕДАМАСНЫ ЛЬГОТНЫ**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381.**

Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта» (у тым ліку самастойна аформіць інтэрнэт-падпіску – на сайце «Выдавецкага дома «Звязда» ў раздзеле «Падпіска» ёсць падрабязная інструкцыя).

Праз аддзяленні сувязі можна аформіць падпіску на абаненцкую скрыню, з дастаўкай да кватэры «з уручэннем з рук у рукі».

РУП «Белсаюздрук» ажыццяўляе прыём падпіскі ў кіёсках і «Да запатрабавання».

А яшчэ – па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).

Таксама ў Вас ёсць магчымасць атрымаць свежы нумар напярэдадні выхаду папяровага варыянта. Для гэтага патрэбна аформіць падпіску на PDF-версію выдання (на сайце «Выдавецкага дома «Звязда» ў раздзеле «Падпіска» ёсць падрабязная інструкцыя). Даступна падпіска і на папярэднія нумары: у прыватнасці, архіў 2018 і 2019 гадоў.

**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2020 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
**індэкс 74844**, цана 6 рублёў 18 капеек,
**індэкс 01380**, цана 5 рублёў 10 капеек,
**індэкс 748442**, цана 17 рублёў 74 капейкі,
**індэкс 01381**, цана 14 рублёў 29 капеек.



